№8(346) 01.03.2002 — 10.03.2002 Рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета • Заснавана ў чэрвені 1994 г.

Беларуская маладзёжная

Лінія ВАШЫХ навін (017) 289-12-12, абанент 6614

TV-программы на неделю

# Бруклинский гамбит

## (почти по Б.Акунину)



Міліцэйскі міністр У. Наумаў імпазатны не менш за мафіозі з італьянскіх фільмаў. Шкада, што ягоная публіка (унізе) таго не цэніць...

фота IREX/ProMedia

Стоило мне дочитать известного детектив-мейкера Бориса Акунина, как в полпервого ночи в редакции раздался телефонный звонок...

— Алло, вы меня слышите?

— А что вы хотите?

— Не подскажете, как у нас можно купить вашу газету?

— "У нас" — это где?

— В Бруклине...

"Шпионы", — первая версия, которую выдвинуло полупроснувшееся сознание. Разузнали телефон и хотят сладеньким женским голоском выведать сокровенные редакционные тайны (хотя... было бы чего скрывать...).

"Читатели!" — спохватилась проснувшаяся логика.

И в самом деле: оказалось, что в Бруклине (кто еще не доучил географию, так это на другой стороне шарика!) ищут "Беларускую маладзёжную". И не с целью набить физиономии авторам или главному редактору, а чтобы ПРОЧЕСТЬ!

К сожалению, в полпервого ночи наш репортер не в состоянии был чем-то помочь потенциальной читательнице "БМ", разве что предложил передавать бесценные выпуски газеты через знакомых самолетом... Зато на "свежую голову" мы придумали выход: если про Америку говорят, как про страну образцовых демократических институтов, то пускай все желающие заграничники обращаются в Посольство, ну, по крайней мере, в Консульство Беларуси с пламенными требованиями обеспечить доставку столь любимой газеты к месту прочтения! Наши не менее рьяные блюстители прав человека безоговорочно должны помочь!

А вот здешним, родным, белорусским потребителям печатной продукции стоит в экстренном порядке мобилизироваться. И не ходить оленьими стадами мимо киосков "Белсоюзпечати" и почты, а немедленно подписываться на "Беларускую маладзёжную". А не то весь тираж уйдет косяками в Бруклин...

М.Котка, для "БМ"

# Папярод цягніка

## Агляд заўтрашніх падзей

Малады Фронт у рамках кампаніі "Беларусь у Эўропу" праводзіць мерапрыемствы пад назвай "Дзень Эўропы" у наступных гарадах:

**1 сакавіка** — Магілёў, **2 сакавіка** — Барань, **3 сакавіка** — Віцебск, **4 сакавіка** — Жлобін, **5 сакавіка** — Рагачоў, **6 сакавіка** — Коханава, **7 сакавіка** — Светлагорск, **8 сакавіка** — Бялынічы.

### МУЗЫЧНЫ ВАГОН

Гурт сярэднявечнай музыкі «Стары Ольса» прэзентуе новую праграму супольна з каскадзёрскай студыяй Антуана Орма і гуртом сярэднявечных танцаў «Маестат»:

**2-3 сакавіка** — на Міжнародным рыцарскім фэсце «Белы замак»;

**21 сакавіка** — на канцэрце ў Маладзёжным тэатры;

**2 красавіка** — на супольным канцэрце з гуртом «Крэсіва» ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы.

**3 сакавіка** а 18 гадзіне у гарадзенскім клубе КЛЕТКА адбудзецца канцэрт гуртоў CONTRA LA CONTRA, СКВОТ, ЦЯЖКІЯ НАСТУПСТВЫ. Запрошаныя госці — SLOWA WE KRIWI (Беласток).

**9 сакавіка** адбудзецца сумесны канцэрт гуртоў АСТРАЛ і КАЛИ ЮГА пад назвай "Полтора мешка мыльных пузырей". Пачатак а 19-й гадзіне.

### АДУКАЦЫЙНЫ ВАГОН

3 лютага па чэрвень 2002 года Сусветны банк у межах праекта "Падтрымка і развіццё грамадскіх арганізацый Беларусі" праводзіць цыкл семінараў-форумаў. На іх прадстаўнікі НДА змогуць азнаёміцца з дзейнасцю іншых арганізацыяў, абмеркаваць магчымасці і абмежаванні функцыянавання грамадскіх арганізацыяў, даведацца пра вопыт суседніх краінаў, пра праграммы донарскіх арганізацыяў. На форумы будуць запрошаныя прадстаўнікі ўладных структураў. Семінары плануецца правесці па ўсіх рэгіёнах Беларусі. Дадатковая інфармацыя: тэл. (017) 284 05 44, 284 07 09 (Марына Малініна); e-mail: marina@olderan.by.com.

### ПРЫЧАПНЫ ВАГОН

Аргкамітэт пад кіраўніцтвам прафесара Анатоля Грыцкевіча вырашыў, што святкаванне Дня Волі пачнецца **24 сакавіка** а 12-й гадзіне ў скверы Янкі Купалы (насупраць Цырку) ускладаннем кветак да помніку Песняра. Пасля святочнай праграмы ўдзельнікі святкаваньня змогуць ускласці кветкі да помніку Якубу Коласу.

Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная грамада) падала ў Мінгарвыканкам заяўку на правядзенне ў пятніцу **15 сакавіка** 2002 году дэманстрацыі ў гонар Дня Канстытуцыі.

Падрыхтавала Наталля Кожурава, "БМ"

• У раёне сталіцы за хабар пасадзілі галоўнага ўрача 4 клінічнай бальніцы Мікалая Круцьянава. А кіраўніцтва "Усходніх" могілак у атрыманні хабару пакуль толькі падазраецца.

**А ведь Минздрав предупреждал!**

• 26 лютага мусульмане Беларусі завершылі адзначэнне Курман-байраму — свята ахвярападнашэння. А іудзеі ў гэты дзень пілі з нагоды свята Пурым. У гэты дзень традыцыя заклікае прававерных да актыўнага ўжывання алкаголю.

**"Гэй, жыць не ўміраць, гуляць дык гуляць", — спяваў Анатоль Ярмоленка. А гар Варашкевіч дадаваў: "Гэй там, налівай!.."**

• Аляксандр Лукашэнка заявіў, што Беларусь мусіць мець ужо ТРЫ ўласных тэлеканалы. Праўда, магчымасці спадарожнікавага эфіру практычна не абмежаваныя...

**"Все почти с ума свихнулись, даже кто безумен был. И тогда главврач Моргулис телевизор запретил", — рашэнне праблемы ад Уладзіміра Высоцкага.**

• У Чэхіі 33-гадовы Губэрт Зламала на вачох паліцыянтаў бязлітасна забіў вожыка. За гэта яму пагражае паўгады турмы. А адміністрацыя Белавежскай пушчы забараніла падыходзіць да зуброў менш чым за 2,5 тысячы рублёў.

**"Я ежиков люблю", — спяваў зялёны актывіст Багдан Тытамір.**

• Аб'яднаная грамадзянская партыя мае намер "узмацніць сваю прысутнасць" на Берасцейшчыне. Пра гэта паведаміў Анатоль Лябедзька. А маскоўскі півабезалкагольны камбінат "Очаково" збіраецца паўтарыць аперацыю па "узмацненні прысутнасці" на Беларусі, на якой апёкся бровар "Балтыка".

**"Мы к вам заехали на час, теперь попробуй, выпри нас!" — студэнцкі фальклор.**

• Брытанскі прэм'ер Тоні Блэр меў шанец знайсці шмат новых "сяброў па тэлефоне". У выніку злога жарту (альбо "тэракту"?) тысячы брытанцаў штурмавалі ўрадавы тэлефон.

А вось японскія гей-бары церпяць вялікія страты: іх кліентура ўсё больш упадабляе знаёмствы праз інтэрнэт.

**"Телефон-автомат у нее, телефон на столе у меня..." — споведзь ад Юрыя Візбара.**

• Абвінавачаны ў забойстве Завадскага Валеры Ігнатовіч, якому свеціць



смяротнае пакаранне, адмовіўся ад апошняга слова ў судзе. А паводле дадзеных Амерыканскага саюзу грамадзянскіх свабодаў, за апошнія 23 гады доля судовай памылкі ў смяротных прысудах склала 68 %.

**"А что? Да ничего — засудить хотят его", — рваў душу "Ляпис Трубецкой".**

• Расія і ЗША высвятляюць, каму праводзіць антытэрарыстычную аперацыю на тэрыторыі Грузіі. А ў зоне антытэрарыстычнай аперацыі ў Калумбіі падчас вандроўкі выкралі кандыдата ў прэзідэнты ад партыі зялёных Інгрэд Бэтанкурт. Разам з часткай штабу.

**"Мы партызаны — лясныя браты", — спяваў герыльера Лявон Вольскі.**

• Атака ізраільскай авіацыі прывяла да разбурэння значнай часткі штабкватэры Палестынскай Федэрацыі Прафсаюзаў. А вось у Аўстраліі за спамерскія атакі будуць караць па законе, прынятым каралём Іакавым у 1610 годзе.

**"Наша компания по уборке мусора работает с гарантией: если вы не довольны работой, мы вернем мусор в двойном размере", — анекдот, расказаны калегам.**

• **27 лютага ў Мінску прагрымеў першы ў гэтым годзе гром.** *І гэта ўжо не жарт...*

"БМ" — не сметнік! Але ж і Вы — не цуцыкі. Наш падпісны індэкс 63309.



**Даже полный идиот видит, что весна идет. Но уверен: загоню всех на «Минскую лыжню»!**

# Вясны не будзе?

**Дзень Волі-2002 пройдзе ў незвычайна "савецкім" фармаце. Традыцыйнага шэсця-мітынгу гэтым разам не будзе — аргкамітэт вырашыў не праводзіць масавых акцыяў. Патрыятычнаму насельніцтву апазіцыянеры прапануюць ускласці бел-чырвона-белыя кветкі песнярам Беларусі — Янку Купалу ды Якубу Коласу, а выбраных запросяць на ўрачысты сход.**



"Дзень Волі" мінулага году — урачыстае шэсце беларускага АМАПу

Па словах аднаго з сябраў аргкамітэту, Аляксея Караля, меркаванні былі простыя: дазволу на акцыю ў горадзе не дадуць і, як заўсёды, адправяць на Бангалор. На Бангалор ніхто не згодны, таму выбар просты — альбо рабіць свята несанкцыянавана, альбо... Дэманстрацыі волі гарантаваны разгон і сілавыя ўздзеянні з боку ўладаў. Улічваючы, што ніякіх "выпрабаванняў сілаў" гэтай вясной не было і невядома, колькі народу прыйдзе на святкаванне Дня Волі, аргкамітэтам вырашана людзей "не падстаўляць". Заўважана: урачыстасці павінны быць урачыстасцямі, а не чарговымі "адсідкамі" у пастарунках.

Дзіва — на такое даў згоду вялізны аргкамітэт, у склад якога ўваходзяць шмат дасведчаных і апрабаваных "мітынгоўшчыкаў". Нават Вячаслаў Сіўчык і Павал Севярынец, традыцыйныя "правадыры" радыкальна скіраванай моладзі, пагадзіліся з гэткім рашэннем аргкамітэту. Кажуць, менавіта Сіўчык сам прапанаваў ускладанне кветак да помніка Якубу Коласу.

Аляксей Кароль, сябра аргкамітэту "Дня Волі", кажа:

— *Мы прапануем мірную акцыю, якая не патрабуе дазволу Мінгарвыканкаму — ускладанне кветак песнярам, якія далі ідэю адраджэнню і стаялі ля вытокаў стварэння незалежнай Беларускай Рэспублікі. Мы не падаем ніякіх заяваў. Мы лічым, што гэта — свята, і ўлада не будзе прымаць аніякіх сілавых дзеянняў датычна ўдзельнікаў святкавання. Плюс да гэтага дадаецца, па нашым меркаванні, сацыяльны аспект — незалежнасць і суверэнітэт ёсць пачаткам нармальнага існавання грамадства.*

*Будуць яшчэ і іншыя мерапрыемствы. Напрыклад, прыняццё гімну Беларусі. На аргкамітэце вызначана, што для гэтага будзе вылучана адпаведная група спецыялістаў, навукоўцаў. Але адзінае патрабаванне — гімн павінен быць са словамі.*

Аднак не ўся моладзь, асабліва радыкальна настроеная, гатовая падтрымаць і нават зразумець такі фармат акцыі. Адзін з лідэраў незарэгістраванага руху "Зубр" Аляксей Шыдлоўскі адразу выказаўся за тое, што на Дзень Волі павінна быць масавае шэсце — не зважаючы на тое, што будзе рабіць улада і куды яна пашле маніфестантаў. "*Масавая годная акцыя — гэта адзіны прымальны фармат для Дня Волі*", — упэўнены А. Шыдлоўскі.

Яшчэ больш радыкальна настроены другі лідэр "Зубра", Цімох Дранчук:

— *Гэтая акцыя мае традыцыю некалькіх гадоў — самы яркі і відовішчны пачатак вясны на Беларусі. Я лічу, што не варта здраджваць традыцыям. Гэта павінна быць не вузкафарматная акцыя, а шэсце па цэнтральным праспекце Мінска. Апазіцыя павінна была рыхтавацца да гэтага свята мінімум два месяцы, але яны замест гэтага займаліся дэмагогіяй і пачалі варушыцца хіба што напярэдадні. Што, у прынцыпе, яскрава характэрызуе, на што здольныя нашыя буйнейшыя апазіцыйныя партыі: АГП, БНФ і ўсе астатнія. Бо арганізаванае ўскладанне кветак у гэты дзень — ну, проста несур'ёзна...*

Аднак, мяркуючы па ўсім, ні "Вясны-96", ні "Вясны-97" і, бадай, іншых вёснаў гэтым годам не атрымаецца. У Дзень Волі, 25 сакавіка, некаторыя з ускладальнікаў кветак (да Купалы і Коласа сходзяць напярэдадні) збяруцца ў мінскім Палацы Мастацтваў. Святкаванне скончыцца прыняццем гімну Беларусі, які краіна, магчыма, атрымае пасля змены ўлады. Прынамсі, БНФ спадзяецца на гэта — хоць невядома, хто гэтую ўладу зменіць.

Праўда, ярка пачаць вясну апазіцыянерам прапануюць 15 сакавіка. Пра Дзень Канстытуцыі ўзгадала БСДП "Народная Грамада" і падала заяўку (ад імя сябра партыі Віталя Малашкі) на правядзенне дэманстрацыі ад плошчы Якуба Коласа да плошчы перад "опернікам". Проста і традыцыйна — як кожную вясну.

势 

Плануемая колькасць удзельнікаў — 10 000. Збярэмся?

Сяргей Пульша, "БМ"

# «А ты хто такі?»

## — з гэтымі словамі Беларусь можа пакінуць АБСЭ

Кіраўнік камісіі па міжнародных справах Нацыянальнага сходу Мікалай Чаргінец услед за іншымі прадстаўнікамі афіцыйнага Менску заявіў, што Беларусь можа прыпыніць сяброўства ў АБСЭ. Сп. Чаргінец патлумачыў: «беларускі народ бачыў гітлераў і напалеонаў, і такога стаўленьня чыноўнікаў АБСЭ, якое ёсьць цяпер, не пацерпіць».

Камэнтуючы магчымае прыпыненьне сяброўства Беларусі ў АБСЭ, Мікалай Чаргінец азначыў:

— К сожалению, сегодня у руководства ОБСЕ сложилось такое отношение к Беларуси, которое выглядит весьма странно. Конкретные факты свидетельствуют о том, что Беларусь — это суверенная страна. И есть какие-то пределы такого игнорирования и неуважительного отношения

***— У чым праяўляецца, як Вы гаворыце, абразьлівае стаўленьне АБСЭ да Беларусі?***

— Ну, а как Вы думаете? Вот от нас требуют допустить на территорию Беларуси их руководителя КНГ ОБСЕ. Но что у них за мандат? Где там говорится, что 87% средств, которые тратил Вик, должны тратиться на оппозицию. В каком мандате это написано?

***— Гаворка — заўважу — ідзе не пра мандат, а пра ўмовы выкананьня, якіх патрабуе АБСЭ. Беларусь ёсьць сябрам АБСЭ. А гэта азначае, што афіцыйныя ўлады ўзялі на сябе дакладныя абавязкі.***

— И тут мы наблюдаем двойной подход. Вот нам госпожа Цапф заявляет, что ей не нравится наш Избирательный Кодэкс. А именно — норма про досрочное голосование. А я у неё и спрашиваю про то, как этот вопрос решается в Германии. Она смущается и говорит, что у них тоже есть досрочное голосование. Так какие же претензии Вы нам предъявляете? Таких вещей я могу назвать десятки. Я ж уже пережил несколько этих представителей ОБСЕ, которые начинают песню с того, что «у нас есть условия», а потом переходят на новые условия. В конце концов, и у нас терпение не беспредельное.

***— Але прадстаўнікі АБСЭ выстаўляюць чатыры канкрэтныя ўмовы, якія не зьмяняюцца вось ужо цягам некалькіх гадоў. Як Вы мяркуеце, ці пасунуўся афіцыйны Менск да прагрэсу ў выкананьні гэтых чатырох умоваў з тым, каб выстаўляць прэтэнзіі да АБСЭ?***

— Конечно. Ну, например, принято решение расширить функции парламента и дать ему право обсуждать кандидатуры наших представителей за рубежом и послов. Это же факт расширения прав парламента? Факт. Почему же они не хотят этого замечать? Палата представителей готовит парламентские слушания по смертной казни. Но они же этого не хотят замечать. Каждый раз приезжает новый функционер из Парламентской Ассамблеи, которого даже часто не знают у себя в парламенте, и заявляет: передайте президенту, вот вы, парламент, и делайте так, как я сказал. А встаёт вопрос: а ты кто такой?!. Видели мы и наполеонов, и гитлеров, которые приходили на нашу землю. И так относится к белорусскому народу нельзя.

***— Якія выкліча наступствы выхад Беларусі з АБСЭ?***

— Конкретные шаги мы ещё не определяли. Высказывания про выход Беларуси из ОБСЕ всё чаще звучат из уст наших политиков. Если и в дальнейшем нас будут так провоцировать и шантажировать, то мы будем ставить вопрос о выходе из ОБСЕ.

Пракамэнтаваць заявы афіцыйнага Менску наконт магчымага прыпыненьня Беларусьсю сяброўства ў АБСЭ мы папрасілі былога кіраўніка Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЭ ў Беларусі амбасадара Ганса-Георга Віка, які цягам чатырох гадоў працаваў у нашай краіне і добра ведае сытуацыю знутры.

— Наколькі я зразумеў заяву прадстаўніка Беларусі ў АБСЭ спадара Гайсёнка, які агучвае пазыцыю афіцыйнага Менску, беларускія ўлады ўсё ж такі маюць на ўвазе ня выхад з самой Арганізацыі па бясьпецы й супрацоўніцтве ў Эўропе, а толькі выхад з Парлямэнцкай Асамблеі АБСЭ. Гэта, хутчэй за ўсё, палітычныя гульні. Таму што ўлады Беларусі добра разумеюць, што выходзіць з АБСЭ — ня ў іхных інтарэсах ва ўмовах фармаваньня новай геапалітычнай сытуацыі ў Эўропе. Гэтыя заявы можна назваць тактычным манэўрам з боку беларускага кіраўніцтва ў сёньняшнім супрацьстаяньні двух бакоў.

Радыё Рацыя
*(захаваны правапіс арыгіналу)*

# Наш адказ NATO

26 лютага ў беларускіх мэдыях апублікавана Вайсковая дактрына Рэспублікі Беларусь. Менавіта з гэтага дня дакумэнт афіцыйна стаўся дзейсным.

Законапраект «Аб вайсковай дактрыне Рэспублікі Беларусь» прыняты Палатай прадстаўнікоў яшчэ 12 сьнежня мінулага году. Сэнатарам і Лукашэнку спатрэбілася больш за два месяцы, каб канчаткова зацьвердзіць гэты дакумэнт і накіраваць у друк.

Зрэшты, разгляд новай Вайсковай дактрыны Беларусі ў парлямэнце й зацьвярджэньне яе Лукашэнкам было ад пачатку фармальнай справай. Бо насамрэч беларуская вайсковая дактрына фактычна сьпісаная з расейскай, зацьверджанай Уладзімірам Пуціным яшчэ 21 красавіка 2000 году.

Прынамсі, у абодвух дакумэнтах падаюцца амаль аднолькавыя крыніцы вонкавай і ўнутранай небясьпекі. Напрыклад, у беларускай Вайсковай дактрыне, як і ў расейскай, сярод асноўных зьнешніх пагроз узгадваецца «пашырэньне вайсковых блёкаў». Гэта абумоўлена тым, што расейская вайсковая дактрына ствaралася ў пэрыяд абвастрэньня адносінаў паміж Расеяй і NATO ў сувязі з тагачаснымі падзеямі ў Югаславіі.



Але сытуацыя на Балканах стабілізавалася, Расея ўжо не ўспрымае NATO як патэнцыйнага ворага. І толькі беларускае кіраўніцтва па-ранейшаму бачыць у Паўночна-Атлянтычным альянсе вонкавую пагрозу.

Адметна, што сярод зьнешніх пагроз у беларускай Вайсковай дактрыне паўстае й «інфармацыйнае ўзьдзеяньнне з выкарыстаньнем сучасных тэхналёгій». Гэта можа даць падставы ўладам ува ўсялякі момант распачаць «паляваньне» на журналістаў замежных мэдыяў, альбо аднавіць савецкую практыку «глушэньня» заходніх радыёстанцыяў.

Усьлед за Расеяй, дзе сапраўды абвастрыліся праблемы міжэтнічных адносінаў, беларускія ўлады таксама вылучылі ў шэрагу ўнутраных пагрозаў дзейнасьць экстрэмісцкіх арганізацыяў. Праўда, нашыя ўлады могуць далучыць да ліку экстрэмісцкіх найбольш уплывовыя апазыцыйныя партыі й рухі — і зноў жа аб'явіць ім вайну.

Адзіная істотная розьніца паміж беларускай і расейкай вайсковымі дактрынамі тычыцца выпадкаў ужываньня ядравай зброі. Нагадаю: Расея пакідае за сабой права ўжываць зброю масавага паражэньня ня толькі ў разе ядравых канфліктаў, але й у «крытычных для нацыянальнай бясьпекі сытуацыях». Дзякаваць Богу, у Беларусі ядравай зброі няма.

Ян Мікалаеў, Радыё Рацыя,
фота IREX/ProMedia

• **Документ**

# Сколько стоит новый образец известного образа?

| | |
|---|---|
| ____________ № __________<br>На № ______ ад __________ | **Руководителям организаций республиканского подчинения** |

Сообщаем, что Государственное учреждение материально-технического снабжения Управления делами Президента Республики Беларусь предлагает приобрести портреты президента Республики Беларусь Лукашенко А.Г. нового образца единой формы для всех организаций.

Заявку отправлять по факсу 206 63 65; 221 27 13.

Контактный тел. 213 10 38.

# Інфармацыя мусіць быць свабоднай!

**А правілы, датычныя аўтарскіх правоў, час ад часу варта перапісваць...**

**Шмат хто з нас карыстаецца кампутарам. І не сакрэт, што на прасторах былога СССР за праграмы плаціць не прынята — або мы купляем узламаныя копіі, альбо перапісваем іх у сяброў.**

**Думаеце, зараз пачнецца сумнае апавяданьне, як з гэтым варта змагацца? Наадварот: пагледзім, чаму гэта варта вітаць...**

Мэта кампаній кшталту Microsoft сьвятая — кожны карыстальнік мусіць заплаціць як мага болей. Першы і самы відавочны спосаб выцягнуць грошы — дамагчыся, каб кожным выпускам праграмы карыстаўся толькі адзін чалавек. Для гэтага распрацоўваюцца ўсё больш складаныя сыстэмы аўтарызацыі і рэгістрацыі.

Яны заснаваныя на глыбокай зашыфроўцы праграмных кодаў, каб абарону ад капіяваньня нельга было адключыць. У выніку карыстальнік таксама не можа дапрацаваць брыдка напісаную праграму, выправіць у ёй памылкі альбо дапісаць патрэбныя яму адному функцыі.

І тут адкрываецца другі спосаб узбагачэньня. Чамусьці карпарацыя лічыць, што мае права нават на тое, што ты ўжо набыў. Напрыклад, у цябе ёсьць сябра–праграміст, і ты гатовы заплаціць яму, каб ён удасканаліў твой "фоташоп" так, як патрэбна табе (і больш нікому!) А нельга... У некаторых краінах мадыфікацыя коду сваімі рукамі нават лічыцца крымінальным злачынствам. Уяві сабе, што карпарацыя BMW не дае табе паставіць на свой аўтамабіль рухавік ад ЗАПАРОЖЦА...

Але... Калі кожны карыстальнік будзе рабіць з праграмы тое, што яму трэба — скароцяцца продажы новых вэрсыяў. А вось калі мадыфікацыя забаронена і чалавек карыстаецца "крывой" праграмай — ён абавязкова набудзе новую, дзе глюкі выпраўленыя (затое ёсьць шмат новых незаўважаных).

Цяпер разумееце, чаму часам карпарацыі не саромеюцца гучна абвяшчаць аб "багах"? Я б на месцы Гэйтса спэцыяльна пакідаў брутальныя прарэхі ў сыстэмах бясьпекі, каб абвяшчаць аб іх акурат перад выхадам новай вэрсыі. Ды што далёка хадзіць: узгадайце знакамітую "памылку 2000" і прыкіньце — колькі яна прынесла шкоды? Не памятаеце? А колькі бабак стваральнікам "2000 protected" праграм? Вось-вось... Калі аўтамабілісты любую мадэль робяць надзейнай, бо інакш яе ніхто не купіць, дык у гандляроў праграмамі ўсё наадварот.

Усе такія падыходы — варожыя сапраўдным праграмістам. Адным з найбольш вядомых вытворцаў свабодных праграмаў зьяўляецца праект GNU – www.gnu.org . Яны распаўсюджваюць свой софт свабодна, абсалютна не патрабуючы рэгістрацыі і не забараняючы яго мадыфікаваць. Што самае дзіўнае, такія праграмісты не дохнуць з голаду. Як жа яны зарабляюць? Напісаньнем праграмаў? Так.

Але пішуць яны не пакеты для мільёнаў карыстальнікаў, палова з якіх ніколі не выкарыстае ўсіх закладзеных у праграме функцыяў. Калі камусьці вельмі трэба нейкае праграмовае забеспячэньне, ён плаціць праграмістам GNU, каб тыя папрацавалі пару тыдняў-месяц-год і далі заказчыку тое, што яму патрэбна да канкрэтнага тэрміну і з гарантаванай якасьцю. Чуеце розьніцу?

Потым, калі праграма гатовая і аказваецца, што патрэбная яна не толькі заказчыку, астатнія могуць купіць зь ёй кампакт-дыск альбо свабодна скачаць з сайту... І аўтары не турбуюцца наконт грошай — нашто вымагаць даляры за працу, якая ўжо зробленая і аплочаная? Цікавей рабіць новы заказ для кагосьці яшчэ, у каго няма часу чакаць...

Кагосьці зьдзівіць такое спакойнае стаўленьне да "незаконнага" капіяваньня. Але ўся справа ў тым, што нават сама ідэалёгія аўтарскіх правоў на інфармацыйныя прадукты — гістарычна састарэлая. Яе карані палягаюць у тых часах, калі асноўным прадметам гандлю былі матар'яльныя аб'екты. Але інфармацыйная рэвалюцыя змяніла ўсё. Чалавек, які, напрыклад, гандлюе бутэрбродамі, мае права патрабаваць аплаты за кожны зь іх.

Бо, калі ў мяне ёсьць бутэрброд, а ты яго зьясі — мой заказчык застанецца галодным. Але калі ў мяне ёсьць праграма, альбо сьвежы альбом "Песьняроў", альбо іншы інфармацыйны прадукт, і ты яго СКАПІЮЕШ, мяне і майго непасрэднага заказчыка гэта ніяк не закране. І ня факт, што, калі б ты не капіяваў інфармацыю, ты б абавязкова яе купіў і абавязкова ў мяне.

Дык ці можна лічыць злачынствам дапамогу сябру, які хоча скарыстацца з тваіх праграмаў? Сябра жыве побач і грошыкаў мае ня густа, а Біл Гэйтс жыве ў Нью-Ёрку і нават не ведае пра вас абодвух. Чаму ж ты мусіш адмаўляць свайму небараку-сябру дзеля таго, каб Гэйтс атрымаў дзесятку баксаў?

"Ні ў якім разе!" — адказвае адзін з заснавальнікаў FREE SOFTWARE FUNDATION, Рычард Столман. Па ягоных словах, дух супрацоўніцтва і адкрытасьці значна важнейшы за камэрцыялізацыю і прыбыткі на пустым месцы.

Сёньня ўсё больш праграмістаў далучаюцца да руху FREE SOFTWARE. Традыцыйна ў іхных шэрагах — аматары сыстэмы Linux, а цяпер яшчэ і апэрацыёнкі Lindows, якая можа працаваць з "віндовымі" фарматамі, але мае адкрытую крыніцу. На адкрытым сафце зроблена шмат хакерскіх і незалежных інфармацыйных сайтаў. Больш інфармацыі і сякі-такі бясплатны софт можна знайсьці на сайце праэкту GNU www.gnu.org . А кроніку барацьбы Microsoft з "нежаданымі канкурэнтамі" можна паглядзець на www.lindows.com.

А цяпер падумай і падсумуй. Ты маеш права дзяліцца з сябрамі праграмамі. Ты маеш права мадыфікаваць іх і выпраўляць памылкі... Ты маеш права на вольнае праграмовае забеспячэньне! Дык нашто падтрымліваць камэрсантаў ад праграмаваньня?

Да таго ж усё, што тут казалася пра аўтарскія правы, прыкладзі да іншых сфэраў — напрыклад, да музыкі альбо "бягучых" інфармацыйных матар'ялаў. І зразумееш, што капірайт на сайтах навінаў альбо музычных кампакт-дысках выглядае непатрэбным атавізмам. Інфармацыя мусіць быць свабоднай!

Sanitar, для "БМ"
*(захаваны правапіс арыгіналу)*

***Для тых, хто не праграмер: майце на ўвазе, што большасьць свабоднага софта напісаная пад Linux, а не пад Windows — не ў апошнюю чаргу з-за закрытасьці апошняй. Але зь іншага боку, калі вы працуеце сур'ёзна, дык чаму б не паспрабаваць? А згубіўшы некаторыя праграмы пад "віндой", вы набудзеце шмат чаго цікавага пад LINUX. галоўнае — безьліч свабоднага забесьпячэньня.***

# Хочешь сесть в тюрьму — пиши

Я хочу сказать вот что. Мне кажется, что судить, высылать, казнить и мучить писателей, журналистов и просто общественных деятелей уже давно, с библейских времен, стало просто "доброй" традицией. Никто почему-то не судит и не ссылает, например, летчиков или ассенизаторов.

Давайте посмотрим, что отложилось в недолгой памяти человечества. Сожженные на кострах инквизиции личности свои имена до нас попросту не донесли — сгорели вместе со своими книгами и антиправительственными и антицерковными памфлетами. Но сколько имен известно!

Мигель Сервантес. Эстет и настоящий мученик Оскар Уайльд, запертый в Редингтонской тюрьме. Молодой хулиган Маяковский, смотревший на "неба слипшиеся губы" сквозь прутья решетки. Отмотавший несколько сроков Великий Кен Кизи. Даниил Хармс, заколотый насмерть транквилизаторами в одной из психиатрических лечебниц Советского Союза, только начавшего приобретать статус тоталитарной машины. Непревзойденный Федор Достоевский. Первый белорусский журналист Кастусь Калиновский. Михаил Булгаков. Николай Гумилев. Михаил Зощенко. Иосиф Бродский. Александр Солженицын. Борис Пастернак. Сергей Граховский. Владимир Ленин. Приговоренный мусульманскими властями к смерти Салман Рушди. Славомир Адамович. Дело не в громкости имен. Дело не в том, что я приравнял писателей к журналистам (люди недумающие обычно считают журналистов писателями третьего сорта). Дело в том, что если продолжать этот список, то данный номер этой газеты рискует превратиться в спецвыпуск, посвященный пострадавшей от властей пишущей и говорящей братии.

Ввиду этого у меня имеется СОВЕРШЕННО СЕРЬЕЗНОЕ предложение к составителям новых учебников по журналистике — на первой же странице размещать следующий текст: "Если вы опасаетесь, что вас когда-нибудь посадят в тюрьму, немедленно закройте книгу, отложите ее в сторону и никогда больше не помышляйте о карьере журналиста, писателя или общественного деятеля. Если этот факт вас не смущает, запомните на всю жизнь — когда вы не нравитесь, в УК под вас обязательно найдется подходящая статья. ЕСЛИ ТАКОЙ СТАТЬИ ЕЩЕ НЕТ — ЕЕ ПРИДУМАЮТ СПЕЦИАЛЬНО ДЛЯ ВАС". Потому что действительно становится СТРАШНОвато.

Помнится, теперешний декан факультета журналистики БГУ Василий Петрович Воробьев в своем интервью журналу "АБАЖУР" назвал прессу субъектом политического процесса. Это означает, что не реагировать на изменение погодных условий на политической арене журналист ФИЗИЧЕСКИ НЕ МОЖЕТ. У него это вытерлось из генотипа аккурат тогда, когда он отдал в редакцию свой первый материал. Механизм, отвечающий за включение инстинктов самосохранения, повредился навсегда.

И дело не в том, что независимые журналисты, от которых уже ничего почти не зависит, "заваривают очередную кашу", устраивая вокруг ареста редактора газеты "Пагоня" Николая Маркевича невообразимую "бучу", хотят показать его каким-то гипермучеником и т.д. Просто не получается вот так вот сидеть и молчать. Потому что я тоже журналист. Потому что я тоже живой человек. Потому что я руководствуюсь некими общечеловеческими принципами, которые из меня не смог вымыть ни детский сад, ни школа, ни факультет журналистики. Которым я буду верен до конца, что бы там ни было.

А. Галецкий, для "БМ"




# У свободы слова нет альтернативы

**Беларусь осталась последним "желтым пятном" несвободы слова на карте Европы. От этого позорного пятна нам надо очиститься, и как можно скорее. Надежда только на прогрессивное развитие страны. Иного просто не дано. Действующая власть поставлена перед выбором: либо жить по европейским законам, либо уйти в глухую самоизоляцию, приводящую к экономической нищете и интеллектуальной деградации.**

На заседании Консультативного совета оппозиционных политических партий принято Обращение к международным организациям "О невыполнении Республикой Беларусь обязательств в области обеспечения свободы выражения мнений". Этот документ представлен участникам зимней сессии Парламентской Ассамблеи ОБСЕ, которое состоялось 21 — 23 февраля 2002 г.

Чего добивается Консультативный совет?

*Первое — обеспечить выполнение достигнутых в октябре 1999 г. Соглашений о доступе политической оппозиции к государственным средствам массовой информации.*

Еще со времен Древнего Рима существует правило: договоры должны исполняться. Кто уклоняется от взятых на себя обязательств, тот лишается навсегда доверия и, естественно, авторитета. В случае с неисполнением Соглашения нарушитель известен. Комментарий излишен.

*Второе — создать равные условия деятельности для СМИ всех форм собственности.*

Это — чисто конституционное требование (ст.13 Конституции), которое обязаны все выполнять безусловно. В этой связи уместно поставить вопрос: так кто же не выполняет Конституцию?

*Третье — привести белорусское законодательство о СМИ в соответствие с общепризнанными международными стандартами.*

Данное требование также продиктовано Конституцией, которая провозглашает приоритет общепризнанных принципов международного права (ст. 8). И видимо, не случайно, разработчики нового Закона о СМИ признали, что в этой сфере первостепенное значение имеют международные договоры, ратифицированные Республикой Беларусь. Дело осталось за малым — устранить из белорусского законодательства положения, которые противоречат общепризнанным нормам международного права в области СМИ.

*Четвертое — прекратить вмешательство органов прокуратуры и КГБ в журналистскую деятельность.*

Дело в том, что в последнее время так называемые правоохранительные органы бесцеремонно вторгаются в чисто профессиональную сферу деятельности независимых СМИ, проводя с журналистами "профилактические" беседы, а то и используя формально правовые средства воздействия. Чего стоит лишь один пример с гродненской газетой "Пагоня"!

*Пятое — приступить к демонополизации государственного телевидения и радиовещания, полиграфических предприятий, системы доставки и распространения печатных СМИ.*

Конечно, это вопрос не столько юридический, сколько политический и едва ли будет решен в системе нынешней власти. Но звучать он должен, хотя бы для того, чтобы постоянно напоминать власти предержащим, кто в стране истинный хозяин: созданное на народные деньги должно принадлежать и служить народу.

*Шестое — создать систему общественного контроля за деятельностью СМИ.*

Такая система существует во всех цивилизованных странах и служит гарантией от вмешательства государства и финансовых олигархов в профессиональную деятельность журналистов.

*Седьмое — сформировать из числа международных и белорусских экспертов постоянно действующую группу по изучению ситуации со СМИ в Республике Беларусь.*

Для того, чтобы обеспечить действительное реформирование законодательства о СМИ и последующее изменение всей системы масс-медиа, необходима работа независимых специалистов и учет их объективных рекомендаций.

**У демократической части общества нет сомнений, каким должен быть дальнейший путь Беларуси. Этот выбор должны принять как можно больше белорусских граждан. Роль независимых СМИ по продвижению Беларуси в Европу переоценить невозможно. Поэтому свои голоса в поддержку вестников свободы — независимых масс-медиа — должны присоединить тысячи, миллионы граждан. Без свободы слова — нет свободы общества.**

Михаил Пастухов, Юрий Топорашев, эксперты по СМИ при Консультативном совете оппозиционных политических партий

**Вулічны марафон “Беларусь — у Эўропу!”, распачаты Маладым Фронтам, ахапіў ужо паўтара дзесятка гарадоў усходняй Магілёўшчыны й Гомельшчыны.**




А 20 лютага дайшоў да радзімы прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь — Шклова. У адрозьненьне ад іншых гарадоў, у агурковай сталіцы маладафронтаўцаў чакаў самы кепскі прыём. Раздачу інфармацыйных матар'ялаў мясцовыя жыхары, асабліва сталага ўзросту, сустракалі лаянкай. Адрозьніваліся й вынікі маладзёвага апытаньня. Так 55 % маладых шклоўцаў жадаюць жыць у Расеі; на прэзыдэнцкіх выбарах 51 % прагаласавалі б за Лукашэнку, а вось на другое месца выйшаў... Павал Шарамет, ён набраў 21 %; на гіпатэтычных парляманцкіх выбарах партыя Лукашэнкі атрымала б 57 % галасоў; і толькі беларускі рубель прайграў амэрыканскаму даляру — 57 % шклоўцаў аддалі перавагу гэтай варожай валюце.

У Дзень абаронцаў Айчыны кампанія “Беларусь — у Эўропу!” прайшла ў Гомелі. Гомельскія МФ-аўцы разгарнулі сярод мясцовае моладзі цэлую эўрапэйскую праграму: у навучальных установах было праведзена некалькі віктарынаў з прызамі, у розных месцах горада раздавалі віншаваньні й інфармацыйныя матар'ялы пра Эўразьвяз, кампанію “Беларусь — у Эўропу!” і Малады Фронт. Кульмінацыяй акцыі стала невялікае шэсьце тузіну маладафронтаўцаў са сьцягамі па цэнтральных вуліцах Гомеля да плошчы Леніна. Напалоханыя гомельскія ўлады выставілі супраць падлеткаў 12 міліцэйскіх легкавікоў і аўтобус з АМАПам. І пачаўся хапун. Затрымлівалі тых, хто ішоў са сьцягамі. Бел-чырвона-белы сьцяг і штандар Маладого Фронту, захопленыя падчас карнае акцыі, міліцыянты дэманстратыўна разарвалі. Вынікі апытаньня звычайнай гомельскай моладзі падцьвердзілі яе эўрапэйскі настрой: 68 % маладых людзей хацелі б бачыць Беларусь у Эўропе; 66 % за бел-чырвона-белы сьцяг і герб “Пагоня”; 45 % гомельскай моладзі падтрымліваюць МФ, кожны трэці — “Зубра”.

А ў Менску суд Савецкага раёну асудзіў Васіля Парфянкова, затрыманага падчас акцыі на Дзень Сьвятога Валянціна, на 10 сутак арышту. Гэта самы жорсткі прысуд за ўдзел у МФ-аўскай акцыі — усе папярэднія суды над затрыманымі ў Дзень усіх закаханых скончыліся штрафамі. Прадстаўнікі Маладога Фронту адразу пасьля вынясеньня прысуду зьвязаліся з дэлегацыяй беларускай апазыцыі, якая прымала ўдзел у разглядзе “беларускага пытаньня” у Парляменцкай Асамблеі Савета Эўропы ў Вене. Факт жорсткай расправы беларускіх уладаў над моладзьдзю стаў вядомы ў Эўропе.

Прэс-служба
Маладога Фронту

**P.S.** ***Гэтаксама на мінулых выходных Дні Эўропы адбыліся ў Слаўгарадзе і Чавусах. Паводле апытаньняў, тамтэйшая моладзь менш “прасунутая”, чым гомельская, і сытуацыя па асноўных пытаньнях блізкая 50/50.***

**Как известно, Россия успешно разобралась с законом об “альтернативке”. И даже “прокатила” при этом генералов — отказниками у них отныне распоряжается Министерство труда. Российские творцы законов продемонстрировали такой прогресс мышления, конечно же, после долгой и настойчивой “обработки”. В том числе и такой...**

• **Армейская курилка**

# Шесть причин, почему вам не следует служить в армии

***Первое и самое главное — не хотите ли вы стать убийцей?***

Возьмите в руки оружие — и вас поведут стрелять по Белому дому или по демонстрации голодных студентов. Вас пошлют завоевывать кишлак (или деревню — какая разница!), в котором живут люди, не сделавшие вам ничего плохого, вашими руками будут делить власть или устанавливать «порядок». Вы будете стрелять в таких же, как вы, а в это время кто-то будет стрелять в ваших родителей, друзей и подруг! Потом все это ОБЯЗАТЕЛЬНО признают преступлением, вожди «покаются», командиры скажут, что выполняли приказ, НО НА ВАШИХ РУКАХ БУДЕТ КРОВЬ — это вы нажимали на курок, это ваша пуля оборвала чью-то жизнь! Навсегда.




***Второе — вы хотите оказаться избитым, искалеченным или даже убитым?***

Вы хотите всю оставшуюся жизнь прожить без почки или глаза, с сотрясением мозга или переломом позвоночника? Сила и насилие — это суть любой армии. И воспитываются они не на уроках ботаники, а в драках. Можете быть уверены, бить вас будут.

***Третье — попробуйте доказать, что любовь и секс не самое важное в человеческой жизни.***

А уж тем более в 15-25 лет. Наверное, наша природа не глупее военных, но она все устроила именно так. И в результате молодых здоровых парней, у которых гормоны лезут из всех пор, сотнями загоняют в тесные сараи, провонявшие портянками! Вот тут все и начинается — гомосексуализм, насилие... Вам так угодно?

***Четвертое — вы хотите быть здоровым?***

Займитесь спортом. Для начала любой тренер пошлет вас к врачу, потому что все люди разные и ваша конкретная физиология предполагает специфические режимы тренировок. Научный факт: несоблюдение режима нагрузок, питания, отдыха и контроля состояния организма приводит к увечьям. Спортсменов с температурой не допускают к соревнованиям. А что, у человека в армии другая физиология? Почему всех строят в один ряд и при дерьмовом питании и хроническом недосыпании заставляют отжиматься и бегать? Вряд ли от этого кто-то станет сильнее, зато кто-то точно станет калекой.

***Пятое — вы хотите стать моральным уродом?***

А кто вас спросит? Интеллектуальные и моральные особенности военных давно и по всякому отмечены, от анекдотов до классической литературы. Конечно, и в армии встречаются умные люди, но, очевидно, погоды они не делают. Задача армейских «воспитателей» — выбить из вас еще не сформировавшуюся личность, превратить в бездушного бойца, выполняющего приказы. 1,5 года вас будет воспитывать система, создававшаяся тысячелетиями — вы уверены, что устоите?

***И, наконец, шестое — да не противно ли вам все это?!***

Ведь существующий порядок просто унизителен — люди, не совершившие ничего преступного, вынуждены скрываться, лгать, изворачиваться, чтобы сохранить свободу и здоровье. За вами гоняются, как за животным, чтобы поймать и лишить свободы, семьи, прав, имущества. А ведь у вас есть ЗАКОННЫЕ права — человеческие и гражданские. Однако первое, что с вами сделают в армии — отнимут паспорт и уравняют в правах разве что с преступниками. Вы не сможете обратиться в суд или милицию, вы не сможете отказаться от принудительного труда, вы становитесь просто никем. А если вы избежите армии, то, вероятно, не получите военный билет и не сможете выбирать, где жить, устраиваться на работу, получить заграничный паспорт: Кому нужен такой порядок? Вам?

В подготовке материала использовались данные http://mao.by.ru

• **Пачытай бабулі!**

# Міліярды на пашырэньне Эўропы

## Пакуль беларусаў палохаюць “блокам Эўразьвязу”, суседзі-палякі ацэньваюць выгоды далучэньня да Адзінай Эўропы.

Грошай ніколі не бывае досыць.

Абурэньне ў палітычных колах Польшчы выклікала тое, што памер датацый для новых чальцоў Эўрапэйскага Зьвязу значна меньшы, чым для старых (немцаў, французаў...). Палякі паразумеліся ў справе сяльгасдаплат з Вугоршчынай, пазыцыя якой, як адзначыў вугорскі прэм'-

**Палякам паабяцалі даплаты ў памеры 1/4 агульнаэўрапэйскае датацыі для сялян.**

**Цяперака ў Польшчы 1,8 міліёнаў сялянскіх гаспадарстваў, але ажно 1 млн. зь іх працуюць толькі на сябе, нічога не прадаюць. Але нават на гэтыя гаспадарствы пойдуць датацыі.**



ер Віктар Орбан у інтэрвію “Газэце Выборчай”, цалкам супадае з польскай. Будуць разам патрабаваць ад Эўрапэйцаў большае прыхільнасьці і большых грошай. Некаторыя палітыкі польскага PSL (сялянская партыя, знаходзіцца ўва ўрадавае кааліцыі) выказаліся нават, што на такіх варунках, як цяпер прапанаваны, да Эўропы ня пойдуць, што прапанова мізэрных даплат — абраза нацыянальнага гонару палякаў, але... гэта толькі словы.

**Бо Эўропа прапануе:**

1. Непасрэдныя (на рукі сялян) даплаты для сялянскае прамысловасьці:

у 2004 годзе — 500 млн Euro; у 2005 г. — 586 млн Euro; у 2006 г. — 709 млн Euro. У тым ліку: па 46,62 Euro за 1 га, засеяны збожжам (у 2004 г.), па 200 Euro ў год за цялушку. Даплата за ўбой: бычкі — па 210 Euro, каровы — па 80 Euro, цяляты — па 70 Euro.

(ў 2004 г. даплаты складуць 1/4 гэтых квот).

2. Датацыі, каб даплочваць за іншыя сельскагаспадарчыя прадукты:

2004 г. — 258 млн Euro; 2005 г. — 374 млн Euro; 2006 г. — 367 млн Euro. Гэтыя даплаты не для выбраных гаспадароў, а за выраб прадуктаў, на якія будзе выроўнівацца цана і самакошт.

3. Структурныя сельскагаспадарчыя фонды:

2004 г. — 766 млн Euro; 2005 г. — 837 млн Euro; 2006 г. — 890 млн Euro.

Іх выкарыстоўваньне патрабуе 20 працэнтаў уласнага ўдзелу, або дакладнага бізнэс-пляну.

Грошы будуць выдавацца за паляпшэньне канкурэнтнасьці прадукцыі ў гаспадарствах, меншых за 15 га, калі будзе прадстаўлены дакладны праэкт. З гэтых грошай можна будзе прафінансаваць і дарогі, і нават ранейшы адыход на пэнсію.

4. Структурныя фонды (рэгіянальная палітыка Эўрапейскага Зьвязу):

у 2004 г. — 3,5 млрд Euro; у 2005 г. — 4,1 млрд Euro; у 2006 г. — 5,2 млрд Euro. За тры гады палякі могуць атрымаць ажно 12,8 міліярдаў Эўра на Фонд Адналітасьці і на Структурныя Фонды.

Каб скарыстацца Фондам Адналітасьці (на аўтастрады, порты, аэрапорты, экалягічныя будоўлі і г.п.), патрэбна будзе ўкласьці польскія бюджэтныя цэнтральныя ці мясцовыя грошы ў памеры 15-20 % ад кошту праэкту. Непасрэдныя Структурныя Фонды накіраваныя на бяднейшыя раёны, каб дацягнуць іх да ўзроўню Эўропы. Тут умова — патрэба дакладаць 25-50 % польскіх сродкаў.

Для нас дзіўная (але самая што ні ёсьць слушная) рэч: усе грошавыя сельскагаспадарчыя выплаты прадугледжаны для індывідуальных гаспадароў, якія “на рукі” атрымаюць усе сотні міліёнаў ды міліярды. Так, атрымаюць менавіта тыя, хто працуе на зямлі!

Варта паназіраць, як гэта будзе адбывацца. Цікава, наколькі хутка будуць зьмяняцца суседзі пад уплывам такіх вялікіх датацый-падарункаў (да якіх яшчэ дададуцца ільготныя крэдыты эўрапэйскіх банкаў). Дакладныя сумы эўрапэйскіх прапановаў будуць вядомыя ўвосень — можа, сяляне атрымаюць не 1/4, а большы працэнт агульнаэўрапэйскае датацыі.

Будзем зайздросьціць? І палохацца заклікаў “Беларусь — у Эўропу”?

**На Берасьцейшчыне, якая ўсяго толькі Бугам падзеленая з Польшчай, ламаюць галаву, дзе знайсьці 53 міліярды рублёў на пасяўную. Падлічана, што татальная затрымка заробку сялянам дапаможа вынайсьці ня больш за 7 міліярдаў рублёў. І яшчэ прыкладна такую ж суму прынясе рэалізацыя малочна-мясных актываў калгасаў і саўгасаў. Спадзяваньні на дзяржаўныя крэдыты ды прымусовыя “ахвяраваньні” прыватных бізнэсоўцаў.**

**Калі падзяліць асабістыя грашовыя зьберажэньні жыхароў Берасьцейшчыны на агульную колькасьць насельніцтва, дык атрымліваецца прыблізна па 120000 рублёў банкаўскіх укладаў на кожнага.**

Сяргей Аўсяньнік,
Варшава, для “БМ”,
фота IREX/ProMedia

# Пациент скорее мертв?

**Не первый год агонизирующая Коронация снова-таки не дала злопыхателям повода для радости. Хотя на сей раз все было куда как скромненько и без понтов: в зале — немноголюдно (КЗ “Минск” был заполнен процентов на 60-70), скромные призы-пакеты с пивом для музыкантов (и тех (в смысле, пакетов) хватило не всем), непретенциозные декорации и практически полное отсутствие рекламы на сцене (за исключением щита “Аліварыі”). Даже из наименования мероприятия на заднике осталось всего три буквы и две цифры: “Рок-01”. Может, на остальные буквы денег не хватило?**

Видимо, дабы подчеркнуть болезненное состояние и Коронации в частности, и белорусской рок-музыки в общем, все действо было оформлено в больничных тонах: КЗМ — клиника, ведущие вечера супруги Вечер — врачи, музыканты — больные, что подтверждалось соответствующей справкой от врача. Болезнь, впрочем, одна на всех — “хворы на рок-н-рол”. Одна семья — болезни общие... Непонятным осталось, какая роль отводилась зрителям, ну да ладно...

Первые выступающие застают меня в баре: вроде, ZET, вроде, новая песня “Фабрыкі”. Захожу в зал — ба! Лявон в каске и без маски. Через короткое время доходит, что ZET — вовсе и не ZET даже, а N.R.M., во всяком случае, по составу команды. Впрочем, тенденция к объединению нынче модна... Песню “На беларускіх дарогах”, по слухам, принесла из репертуара другого исполнителя одна из составляющих N.R.M.: так сказать, послушала-послушала и решила творчество родной команды обогатить — все в дом, в дом! Однако, это, наверняка, гнусные инсинуации завидствующих коллег: мы же знаем с вами, что творчество N.R.M. — ни на что никогда не похоже, оригинально и в своей оригинальности непревзойденно (спасибо огромное, Лявон Артурович, за пиво!).



Большинство номинаций случились безальтернативными, что лишний раз доказывало хилость и болезненность отечественного шоу-бизнеса. Например, в “Клипе года” — только “На турэцкіх палях” ПАЛАЦА, который успел слегка засветиться на телевидении (в основном на “первом музыкальном” и по большей части уже в этом году). Также без вариантов лучшим текстовиком, как и предполагалось, стал Леонид Дранько-Майсюк — благодаря проекту “Цацачная крама”, презентованному Тодором/Войтюшкевичем в самом конце 2001-го. Впрочем, сам Войтюшкевич тоже не остался в обиде, отхватив коронку и в номинации “Традыцыі і сучаснасць”, и как лучший музыкант.

Внезапно появившиеся на столь помпезном мероприятии деструктивные элементы из SPLENETIC внесли разброд и шатание в и без того не стройные ряды слушателей. Слушатели потянулись прочь от тяжелой музыки — в бар, где их ждало жестокое разочарование: внезапно закончилось белорусское пиво. Так что пришлось возвращаться в зал, где хулиганистый вокалист SPLENETIC Дэйв, смачно плюнув напоследок на сцену, все же уступил место новому “застольному” проекту “Крамбамбуля” Л.Вольского & друзей. (Анатоль и Оксана назвали Вольского “открытием тысячелетия” — наверное, комплимент хотели сказать...). Презентованная из “Крамбамбули” песня была посвящена, судя по всему, одному из самых популярных в творчестве белорусских рок-н-роллщиков напитку — “Текиле”...

Но больше всего эмоций лично у меня вызвала могилевская АФФАЗИЯ. Назвать это реверансом организаторов в сторону 80-х как-то язык не поворачивается, слишком уж неуклюжий получился реверанс. Ребята очень старались быть похожими на АРИЮ, что, впрочем, получалось плохо и неуверенно, особенно на фоне также хардрокеров из СУЗОР’Я, что выступали чуть позже.

Впрочем, непонятно откуда взявшиеся были и по-



мимо АФФАЗИИ — например, дуэт “Александра и Константин” или группа ПЛАН. Весьма недурственные по музыкальному уровню коллективчики, широко известные в узких кругах, видимо, просто поимели возможность эти самые узкие круги слегка расширить.

Перспективная и так же, как и N.R.M., не похожая ни на кого команда ІМПЭТТ засветилась на Коронации дважды. Причем, представители портала TUT.BY, определяя “Открытие года”, даже не потрудились открыть конверт — и так, мол, все ясно. Вторую корону отхватила персонально вокалистка Дана — под глумливую “подводку” Вечеров, что, дескать, заразные заболевания у женщин чаще приобретают хроническую форму (?)...

Эмоции накалялись ближе к концу мероприятия и не только в зрительном зале. ЛЕПРИКОНСЫ, нахватавшиеся в Москве дурных манер, нагло тырили во время своего выступления стоящие на сцене пакеты с пивом, благодаря чему кое-кто из выступавших остался ни с чем. Музыканты возмущались и в отместку спаивали Митько самогонкой (опять же, по слухам: “дядюшка Сэм” оказался крепче Илюшиного организма — забурел, видать, Митько, попривык там в Москве к разным “мартини-фигини”). В это время на тотализаторе, организованном звукарем Шлемой (Радио “Мир”), ставки шли примерно 3:1 в пользу КРАМЫ. Сама же КРАМА, уже получившая корону за “альбом года”, своим выступлением, казалось бы, расставила все нужные точки над всеми нужными буквами — народ в зале протащился не на шутку. Посему, когда Игоря Варашкевича, как обладателя первой рок-короны вызвали на сцену вручать “Рок-корону-2001”, кое-кто в зале заулыбался: “мол, ситуация “спасибо мне, что есть я у меня”.

Однако нет — хотя бы в этом году какой-то элемент непредсказуемости в Коронации имел место: большая корона досталась Алесю Суше, автору “супольных” проектов “Сьвяты вечар”, “Я нарадзіўся тут”, инициатору нового проекта на стихи Короткевича. И именно этот последний проект стал причиной появления на Коронации НЕЙРО ДЮБЕЛЯ (изначально Куллинкович собирался бойкотировать мероприятие). Куллинкович, еще находящийся под впечатлением от только что разбившейся бутылки водки (причем, бутылки личной и единственной, что немаловажно) повеселил публику собственно сочиненным анекдотом про Буша, поздравил свою маму с днем рождения и заодно спел пару вещей из нового проекта “на беларускай мове”, одна из которых — “Скрыпка дрыгвы”, судя по всему, и станет заглавной в альбоме.

Напоследок Вечера традиционно заявили про новый образ и концепцию следующей Коронации, во что не верится ни с трудом, ни без труда. Одно остается фактом: видимо, есть в нашей стране люди, которые не дадут Коронации тихо помереть. Так что в следующем году, надо полагать, нас ждет очередная Рок-реанимация?

Алька, для “БМ”,
фото IREX/ProMedia



Корона «просвистела» мимо

**НОМИНАЦИИ:**

**“Альбом года”** — КРАМА — “Хавайся ў бульбу!”

**“Клип года”** — ПАЛАЦ — “На турэцкіх палях”.

**“Открытие года”** — ІМПЭТТ

**“Рок-княжна”** — Дана, ІМПЭТТ.

**“Традиции и современность”** — Дмитрий Войтюшкевич.

**“Лучшие тексты”** — Леонид Дранько-Майсюк за стихи к проекту Д.Войтюшкевича “Цацачная крама”.

**“Лучшая песня”** — БЕЗ БИЛЕТА “Мая краіна Беларусь”

**“Музыкант года”** — Дмитрий Войтюшкевич.

**Главная Рок-корона** — продюссер совместных музыкальных проектов Алесь Суша.

**СПЕЦИАЛЬНЫЕ ПРИЗЫ:**

от “Музыкального журнала” — БМАgroup за сборник отечественного metala “Hard Life-Heavy Music”.

от Белорусской Редакции Польского Радио “Polonia”— журналист, музыкальный критик Витовт Мартыненко за пропаганду белорусского рока.



# РОК-ГІЛЬЯТЫНА

**АнкеТа для ўсенАроднаГа галАсаВаньня**

1. Татальны адстой (Горшы гурт году)

2. Самы правальны альбом

3. Самая адстойная песьня

4. Самы адмарожаны тэкст

5. Самы паганы кліп

6. Закрыцьцё году

Прапануй сваю намінацыю

*Анкеты дасылайце на e-mail: sanitar@tut.by ці на адрас рэдакцыі “БМ”. Кожны голас будзе ўлічаны!*

# Самаробны Міхельсон

**Апошнім часам усё большую папулярнасць на айчынай рок-сцэне набывае D.I.Y. — незалежны выраб і рэалізацыя разнастайнай аўдыё-, відэа- і іншай прадукцыі. I многія гурты такой альтэрнатыўнай сеткай распаўсюду зараз вельмі паспяхова карыстаюцца. Самастойна выдаюць свае запісы, закідваюць адпаведным людзям на продаж. Звычайна, прадукцыю, што рэалізуецца па сістэме D.I.Y., не знойдзеш у ніводнай “мажорнай” краме.**

Але адна справа, як такое робіцца на Захадзе, і зусім іншая — як D.I.Y.-практыка выглядае на беларускіх абшарах. Пра “мясцовыя асаблівасці” распавядае Андрусь, прадстаўнік сеткі распаўсюду “У Міхельсона”, сэрца якой месціцца ў Гародні.

— Зараз такога кшталту прадукцыя карыстаецца вельмі вялікім попытам не толькі на Гарадзеншчыне, а і ў Навапалацку, Гомлі, Бабруйску. І спіс гарадоў паступова павялічваецца. Раней мы распаўсюджвалі касеты, выдадзеныя Беларускай Музычнай Альтэрнатывай. Зараз з ёй мы не супрацоўнічаем, і асноўную частку асартыменту складаюць касеты фірмы “Каўчэг”, незалежных кампаній, а таксама касеты, якія вырабляюць самі гурты.

***— А чаму вы перасталі супрацоўнічаць з БМА, гэта ж даволі вядомы незалежны лейбл?***

— Гэта адбылося пасля таго, як БМА выпусціла сваю металёвую кампіляцыю “Hard Life — Heavy Music”, на якой знаходзіўся і трэк фашыстоўскага, як мы лічым, гурта АПРАКСІЯ. Скандал дастаткова гучны быў, няма сэнсу пераказваць... Сёння БМА не з’яўляецца нашым канкурэнтам, бо кожны з нас працуе са сваім колам прыхільнікаў і сваімі прадстаўнікамі ў рэгіёнах. Зараз вельмі шмат новых людзей, якія жадаюць супрацоўнічаць менавіта з маладзёвай ініцыятывай “Міхельсон”. І яны самастойна знаходзяць кропкі распаўсюду музычнай прадукцыі ў рэгіёнах.

***— Пэўна, гэта вельмі прыбытковы занятак?***

— Я займаюся гэтым не дзеля прыбытку — грошы я магу зарабляць і па-іншаму, а дзеля таго, каб людзі больш слухалі беларускую музыку. Мы распаўсюджваем запісы DEVIATION, CONTRA LA CONTRA, КАЛЬЯН, ANTIGLOBALIZATOR. Апроч таго, касеты латышскіх выканаўцаў, эстонскіх, украінскіх — у асноўным прадстаўнікоў панк-сцэны. Таксама ёсць кампакты габрэйскіх камандаў. Верагодна, будзем распаўсюджваць польскія панк-оі! гурты.

***— А як народ ставіцца да касетаў, выробленых такім чынам?***

— Кожны тыдзень бачу, што попыт расце. Можа таму, што больш нідзе гэтых касет няма. Напрыклад, DEVIATION папулярны і сярод 14-гадовых выхаванцаў інтэрната для сляпых, і ў гарадзенскіх семінарыстаў. Да таго ж кошты на гэтую прадукцыю ў нас прыймальныя для ўсіх — ад 1000 да 1800 беларускіх рублёў.

***— Як рэкламуеце сваю прадукцыю?***

— Рэклама сярод сваіх — гэта па-першае. Па-другое, рэкламныя абвесткі ў рэгіёнах па грамадскіх арганізацыях, навучальных установах. Зараз мы шукаем грошы, каб размесціць рэкламу ў буйных газетах.

Вялікі дзякуй “БМ” за тое, што яна першай пачала даваць матэрыялы з нашага сайту.

***— А як вы кантактуеце з падатковымі органамі?***

— Цяжкае пытанне... Напачатку нашай дзейнасці яны да нас прыходзілі. Але зараз яны слухаюць нашыя касеты і да нас ужо не чапляюцца.

***— А пірацкія касеты “Міхельсон” распаўсюджвае? I як увогуле вы ставіцеся да аўтарскіх правоў?***

— Я вельмі адмоўна стаўлюся да капірайтаў, таму што лічу: любы чалавек, калі ён жадае, сам можа перапісаць тую ці іншую касету. І я ведаю, што Беларусь адной з першых краінаў былога Саюзу прыняла Закон аб аўтарскім праве. Прынамсі, я стараюся браць касеты ў саміх выканаўцаў.

***— На тваю думку, нейкаму гурту ці выканаўцу куды карысней несці касету з сваімі творамі: да нейкіх афіцыйных распаўсюджвальнікаў ці да падобных да цябе?***

— Пра сябе дакладна сказаць не магу, яшчэ мала працую. А з сусветнага вопыту —цікавей гуртам звяртацца да незалежных распаўсюджвальнікаў. Таму што праходжванне праз афіцыйныя структуры займае шмат часу, і пакуль творы дойдуць да слухача, людзям проста робіцца гэта нецікава.

**Нагадаем, што з “Міхельсонам” можна звязацца праз адрэсы: 230003, Гародня-3, а/с 62. E-mail: michelson@tut.by, michelson75@mail.ru. Таксама інфармацыю можна знайсці на сайце michelson.by.ru**

Тусоўшчыкі, “БМ”

• ВАМвыдат

# Свабода для ЦЯБЕ

**Кніжэнцыя "Свабода без цябе", партнэрамі ў выданьні якой на Беларусі сталі газэта "Навінкі" і польскае Stowarzyszenie Młodych Tworcow "Ku Teatrowi", — праэкт, безумоўна, цікавы, хаця й не для кожнага. Хутчэй, гэта прадукт для тых, хто прафэсыйна цікавіцца пытаньнямі палітычнага пратэсту і спосабамі супрацьдзеяньня сыстэме. І пры гэтым не шукае тупа прыкладаў для капіяваньня, а здатны творча асэнсоўваць вопыт іншых.**

Кніга — вынік сэмінараў і сустрэч з беларускай моладзю, якія праводзілі польскія артысты, інтэлектуалы, журналісты. Тыя людзі, для якіх уласная палітычная актыўнасьць ёсьць чым заўгодна, але толькі ня спосабам закалаціць набор закасьцянелых догмаў у вушы суайчыньнікаў.

Галоўная думка, адбітак якой на кожнае старонцы кнігі — пратэст асобы мусіць быць творчым. Паяднаць людзей можа толькі здаровая асэнсаваная іронія ў дачыненьні да несправядлівасьці, якая робіцца вакол. Не "заражаць" натоўп "самымі правільнымі" ідэямі, а першым крыкнуць пра голага караля — каб і астатнія расьсьмяяліся — вось экзыстэнцыя сапраўднага сучаснага рэвалюцыянэра.

Кніжка зьяўляецца бясцэннай крыніцай вопыту некалькіх пакаленьняў замежных змагароў. Ад польскай "памаранчовай альтэрнатывы" часоў генерала Ярузэльскага — да сэрбскага "студэнцкага пратэсту" і мэксыканскіх інсургентаў са штату Чыапас.

Субкамандантэ Маркас у нязьменнай чорнай масцы й лідары "Памаранчовай альтэрнатывы", якія змагаліся з дыктатурай Ярузэльскага і палітычнай істэрыяй шляхам іроніі — героі канца дваццатага стагодздзя. Тое, што іх паяднoўвае — тактыка "аранжавага пратэсту", субкультура, пачатак якой заклалі парыжскія студэнты 1968 году і адмаўленцы вайны ў Віетнаме. У сёньняшнім постмадэрновым грамадзтве "аранжавы пратэст" стаў мэтадалёгіяй рэвалюцый.

Але кніжка не зьяўляецца выключна зборнікам рэцэптаў "Як зрабіць рэвалюцыю". Гэта хутчэй інтэлектуальная бомба, мэта якой — узварушыць мазгі, каб чытач пачаў думаць: як эфэктыўна зьмяніць тое, супраць чаго ты пратэстуеш? На старонках кнігі можна знайсьці развагі аб незалежнасьці журналіста і шмат чаго іншага, што не мае непасрэднага дачыненьня да змаганьня з уладай на вуліцах або ў джунглях. Галоўнае і цэнтральнае пытаньне — як чалавек мусіць ставіцца да ўласнае свабоды і што мусіць рабіць, каб яе абараніць? Ня толькі ад непасрэднага гвалту, але й ад агрэсыўнага ўплыву несвабоднага грамадзтва... і нават ад самога сябе.

Больш дакладна было б перафармуляваць пытаньне, якое паяднoўвае ўсе тэксты, на "як стаць рэвалюцыянэрам". Рэвалюцыянэрам — у сэньсе жаданьня актыўна зьмяняць навакольны сьвет і ягоную несправядлівасьць. Як заўважае адзін з аўтараў, недастаткова сказаць "мне не падабаецца гэты сьвет". Варта сказаць: "Мне не падабаецца гэты сьвет, таму я зьмяняю яго".

Галоўнае, што варта зразумець: рэвалюцыя ня можа рабіцца па рэцэптах — яна прадукт творчасьці ўнутрана свабоднай асобы. Творчасьці іранічнай, таму што іншага варыянту ў постмадэрновую эпоху няма. Здольнасьць да іроніі — бадай, галоўнае, што адрозьнівае чалавека ад жывёлы. І гэта — амаль адзінае, што дазваляе выстаяць супраць дзяржаўнай машыны... Хіба што менавіта гэтага разуменьня й не хапала нам апошнія гады. Магчыма, зразумеўшы досьвед сучасьнікаў больш глыбока, нашыя актывісты здолеюць зрабіць сякія-такія высновы. І тады новае пакаленьне створыць сваю свабоду, не дублюючы яе ні з кога.

Кнігу і пяць відэафільмаў, якія ўваходзяць у праэкт «Свабода без цябе», можна замовіць праз e-mail pauluk@ tut.by.

А. Панкратаў, для "БМ"

## Беларускія рок-навіны

**Партал www.tut.by** сумесна з "Першым музычным каналам" праводзіць апытанне па вызначэнні лепшых айчынных гуртоў, кліпы якіх круціцца на канале. Калі вы жадаеце падтрымаць сваіх любімых выканаўцаў і маеце Internet — наперад!

У той жа час на іншым раздзеле партала, а менавіта gil.tut.by, у межах акцыі "Рок-гільятына" праціягваецца апытанне па вызначэнні ГОРШЫХ беларускіх гуртоў, кліпы якіх круціцца дзе заўгодна альбо не круціцца ўвогуле. Калі жадаеце адпомсціць сваім нелюбімым выканаўцам і не маеце Internety — не сумуйце! "БМ" друкуе для вас адмысловую анкету (стар. 7).

**Гурт DEADMARSH** робіць для сваіх фанаў падарунак — кавер на адну з песень METALLICA "у істотна перапрацаванай стылістыцы на беларускай мове, набліжанай да thrashcore", і гэта ўвойдзе ў чарговы зборнік БМAgroup. У той жа час N.R.M. пагражае трыбьютам DEPECHE MODE — беларускамоўным каверам песні "Personal Jesus".

А ў **гурта NEURO DUBEL** чарговая змена складу. Замест сэсійнага гітарыста Іллі Шэўчыка ў запісе новага альбому каманды прымае ўдзел Алег Громаў — у мірны час студэнт факультэта філасофіі БДПА.

У той час, пакуль "Дзюбеля" сядзяць у студыі, гарадзенскі **гурт CONTRA LA CONTRA** нязменным складам выпраўляецца ў еўрапейскі тур. Сябры з трывогай сочаць за камандай, якая мусіць даць каля 40 канцэртаў на працягу сарака трох дзён. Трымайцеся!

Мінскае "Рок-кафэ" аднаўляе працу. Пакаштаваць піва і сусветнага року можна штопятніцу і штосуботу з 19 да 23 гадзінаў — у памяшканні ПК МТЗ.



# Прочти и передай другому

**Про новый проект "БДГ для служебного пользования" мы уже писали. Однако, как говорится, лучше один раз увидеть, чем сто раз услышать. Сегодня свое мнение высказывают сами читатели, уже с первого номера ставшие фанатами нового проекта.**

***Марина, репортер:***

— Наверное, если эти номера будут выходить и дальше, то лучше их сохранять. Потому что сейчас досье, которые предлагаются разными агентствами, стоят дорого. А ведь не только журналисту или специалисту-политологу, а, в принципе, любому человеку иногда очень интересно проследить развитие событий, сделать собственное досье. Многие люди старшего возраста хранят газетные вырезки еще с советских времен — например, про XIX партконференцию. И бывает любопытно вернуться к тем цитатам, проследить, что стало дальше с теми, кто об этом говорил.

Я думаю, что на белорусском политическом поле (или на политических задворках) все фамилии, которые упоминаются в "ДСП", так или иначе будут крутиться — жизнь долгая. Так что можно делать досье — любопытно...

***Ксюша, студентка:***

— Отец принес эту газету, я ее посмотрела. С одной стороны возникло впечатление, что все это могло бы быть напечатано в обычном номере "Белорусской деловой". Но, с другой стороны, было достаточно интересно узнать живой человеческий взгляд на родственников президента. Шклов и его окрестности достаточно специфичны в силу какой-то "зажратости" людей... И материал как-то оттеняет и конкретизирует личность самого президента, который оттуда вышел, помогает понять и его окружение, и некоторые его поступки. И действия сегодняшние.

Еще запомнился очень хороший материал про советских рок-музыкантов. Эта статья написана в духе "ностальжи". Ее язык помогает прочувствовать атмосферу тех времен — музыкальную, политическую, понять как и почему общество тогда жило.

Я, конечно, прочитала это приложение с большим удовольствием, чем ежедневную БДГ. Приложение по-хорошему "желтее". Оно не разбито какими-то обязательными информационными материалами, там собраны именно сливки — все, что может быть интересно.

***Игорь, радиолюбитель:***

— В любой другой газете всегда много скучной, обязательной, "фоновой" информации. А этот номер состоит исключительно из "гвоздей", которые на протяжении месяца могли бы появиться в том или ином выпуске БДГ. И материалы не теряют своей актуальности. Перефразируя известный слоган — это "газета, которую можно читать целый месяц". Газета не оперативна, но однозначно информативна. Ее можно было прочитать в начале месяца, но я думаю, что если бы смог прочитать тот выпуск только сейчас — получил бы не меньше удовольствия.

**Вскоре выйдет второй номер ежемесячника "БДГ для служебного пользования". Приобрести его можно будет в киосках "Союзпечати". А первый пока еще есть в киоске УП "Марат", по адресу: Минск, ул. Интернациональная 11а. Приятного чтения!**

Уполномоченный по мнениям

# Пенсионер отдал свою пенсию Александру Лукашенко

Житель районного центра Жабинка Геннадий Самойленко решил отказаться от своей первой пенсии и почтовым переводом отправил ее на адрес Александра Лукашенко. Таким образом он намерен привлечь внимание общественности к нищенскому состоянию белорусских пенсионеров. Пенсия, которая была начислена жителю Жабинки Геннадию Самойленко, составляет 68 тысяч рублей (41 доллар США). Самойленко, который недавно достиг пенсионного возраста, считает оскорбительным для себя получать такие деньги.

Сайт "Хартия-97"(www.charter97.org)



"Беларуская маладзёжная"
Рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета
Заснавальнік
Рэдакцыя газеты "Беларуская маладзёжная"
Рэдакцыйная калегія: А. Г. Пятроўская — загадчык аддзела інфармацыі, І.А. Слаўнікава — загадчык аддзела па сувязях з дзяржаўнымі і грамадскімі арганізацыямі.

Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, друкаваць артыкулы дзеля палемікі

Адрас рэдакцыі:
220134, Мінск,
вул. Якубоўскага, 15-1-77
Кантактныя тэлефоны: 57-00-43, 20-98-04
E-mail:belmol@irex.minsk.by
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 665
Пры передруку спасылка на "БМ" абавязковая

Падпісана ў друк 28 лютага 2002 г. у 14.30
Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў паліграфічным РУП "Чырвоная звязда", 220073, г. Мінск, Першы Загарадны завулак, 3.
Кошт свабодны
Тыраж 3000 экз. Заказ № 1656

Галоўны рэдактар
Т.І. Мельнічук
(Нічыпарук)

Падпісны індэкс
63309